# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПЕСЬНІ

СОЛЬНЫЯ І ХАРАВЫЯ
З АКОМПАНІМЭНТАМ ФОРТЭПІЯНА



гармонізаваныя
*АЛАДАВЫМ М., АЛЕНІНЫМ А.,
ІПАЛІТАВЫМ-ІВАНАВЫМ М.,
ПРОХАРАВЫМ Я.*

*выпуск першы*

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1928

# 1. Воўк і авечкі.

*Народная дзіцячая песьня-гульня.*

**Гармонізацыя**

**Я. ПРОХАРАВА.**



# 2. Ладкі-ладушкі.

*Калыханка.*

Гармонізацыя
Мік. АЛАДАВА.



# 3. Гулі.

*Калыханка.*

Гармонізацыя
Я. ПРОХАРАВА



# 4. А-а люлі.

*Калыханка*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

Ня хутка, гульліва. ♩=56.



# 5. Баю, баю, баенькі.

*Калыханка*

Гармонізацыя

А. АЛЕНІНА.



# 6. Верабейка.

*Народная.*

Гармонізацыя

А. АЛЕНІНА.

Хутка




бо – лей дзе – вак трэ – ба. Ой, ля – це – ла птуш – ка да і да шпа –
ні – цы. Ма – ла нас, ма – ла нас, про – сі – мо вас.
Вя – лі – кі наш тан – чык, у – сіх мы ня зьмесь – цім, мно – га нас,
мно – га нас, прэч ад нас

# 7. Ходзіць верабейка.

*Народная песьня-гулянка.*

Гармонізацыя Я. ПРОХАРАВА.

Allegro Moderato ♩= 108.



# 8. Я табун сьцерагу.

*Народная песьня.* **Гармонізацыя Я. ПРОХАРАВА.**



# 9. Чарнушачка.

*Народная.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.



# 10. Старэнькі дзедка.

*Вясьнянка.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.



# 11. Гэй, да люлі.

*Калыханка.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

Ня хутка, але жвава. ♩ = 60.



# 12. Пагнала я кароўку на расу.

*Народная*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА

Для дзіцячага трохгалоснага хору або *a capella*.



# 13. Сьвяці, сьвяці, месячку.

*Вясельная.*

Гармонізацыя
М. ІПАЛІТАВА-ІВАНАВА.



# 14. Ды ўжо сонейка.

*Народная.*

Гармонізацыя
**А. АЛЕНІНА.**

**Досыць павольна.**



# 15. Наша бабка падпіла.

*Народная (хрысьцінная).*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.



# 16. Авечачка-пухнатачка.

*Народная дзявочая песьня.* — Жаночы або дзіцячы хор. — Гармонізацыя Я. ПРОХАРАВА.



# 17. Перапёлка.

*Народная песьня-гулянка*

Гармонізацыя Я. ПРОХАРАВА.

Жаночы або дзіцячы хор.



# 18. Завілася пчолка над варатмі.

*Народная
песьня-вясьнянка.*

Гармонізацыя
Я. ПРАХАРАВА.

Жаночы або дзіцячы хор.

Andantino ♩=60.



# 19. Радзі, сонца, жыта.

*Жніўная.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

Ня хутка ♩ = 92.



# 20. Гэй, вясна.

*Вясьнянка.*

**Павольна** ♩= 80.

Гармонізацыя
**А. АЛЕНІНА.**



# 21. Да было ў бабкі.

*Народная*
*(хрысьцінная)*

Гармонізацыя
**А. АЛЕНІНА.**

**Гульліва, весела ♩=120.**



# 22. Ну, ну, ну, казёл.

*Народная.*
*(шчадроўка).*

Гармонізацыя
М. ІПАЛІТАВА-ІВАНАВА.



# 23. Асовае карыта.

*Народная (вясьнянка).*

Гармонізацыя А. АЛЕНІНА.

Жвава, весела.



## 24. Яшчур.

*Народная*

Для жаночага хору.

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

**Жвава, весела.**




што ў чыр — во — ным па — я — соч — ку, а у-ру —
ця — ным вя — ноч-ку.
p

# 25. Ой, ляцелі ды два галубочкі[1]).

*Народная (валачобная).*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.




1) Гэту песьню можна выконваць або ў адным якім-небудзь варыянце, або ўва ўсіх. Прыпеў заўсёды той самы.

2) Прыпеў з тымі ці іншымі словамі па чарзе.

# 26. Чачотка.

*Народная.*

**Гармонізацыя**
**А. АЛЕНІНА.**

Для жаночага хору






## 27. А мой дзядзька дуднік быў.

*Народная.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

Жвава, весела.




А мой дзядзь-ка дуд-нік быў, а дзя-дзі-на дуд-ніч-ка,
па-ве-сі-лі ду-ду на зя-ле-ным ду-бу. Ча-го ду-да
ня гра-е, чом я-на не сьпя-ва-е?
p
*для канчатку.*

# 28. Камар лазьню тапіў.

*Народная дзіцячая песьня-прыказка.*

Запіс і гармонізацыя
Я. ПРОХАРАВА.




жо раў на ду-бу. Пры-ля-це-ла сі-ніч-ка, ве-раб'-е-ва сяс-трыч-
ка. „Ка-гобу-дзем жа-ні ці?" Ва-сі-ля Па-по-ві ча. А Ва-сіль. Ва-сі-лёк, па-бя-
(і)
жы ка у ли сок, ал-ся-чы даўб-ню. у-дар ба бу па лбу ня-хай ба-ба ко-ціц-
ца. у ба-ло-це то піц-ца. А ў ба-ло-це гу-сі... Ля-ці да Ма-ру-




## 29. Ай, вечар, вечар.

*Вясельная.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.

Павольна.




p
Ай, ве-чар, ве - чар, ка-равай ня пе - чан,
печ не га-то - ва ня-се-це дро - вы.
На-ша-га жа-ніш - ка родны ба-цюх-на як за-ві-нец-ца каравайсыня-
чэц - ца

# 30. Ой, загуду, загуду.

*Летняя (сіроцкая).*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.






## 31. Да разгарысь, вячэрняя зара.

*Дажыначная.*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.




Раз-га-рысь да ва-чэр — ня — я
за-ра. пе-рад ме — ся-цам сто —, я-чы. пры-бя—
рысь, наша гас-па-ды-ня, да у ку — ню-ю шуб — ку
для канчатку.

## 32. Да ляцелі гусачкі цераз сад.

Гармонізацыя

*Народная (вясельная)*

**А. АЛЕНІНА.**

**Весела.**



# 33. Прыляцела галка.

*Народная бытавая песьня*
*Бабруйскага павету.*

**Гармонізацыя**
**Я. ПРОХАРАВА.**

Жаночы або дзіцячы хор.

**Andantino** ♩= 84.



# 34. Заінька.

*Народная песьня-гулянка.*

Гармонізацыя Я. ПРОХАРАВА.

Жаночы або дзіцячы хор.



## 35. Як у полі.

*Народная (летняя).*

Гармонізацыя
А. АЛЕНІНА.



*3-ці варыянт.*




*4-ты варыянт.*









## 36. Як пашоў Мікола.

*Народная.*

Гармонізацыя

А. АЛЕНІНА.

Зьмерна ♩ = 76.

Canto.

Piano.






# 1. ВОЎК І АВЕЧКІ.

Дзейныя асобы: ПАСТУХ, ВОЎК і АВЕЧКІ.

Пастух становіцца сярод хаты з качаргой у руках, каля яго навокал садзяцца авечкі—хлапцы і дзяўчаты, а воўк хаваецца за дзьвярыма.

Пастух (пяе):
Пасу, пасу авечачкі
Недалёчка ад рэчачкі,
Я пасу авечкі
Каля самай рэчкі.
Воўк за гарою,
Шэры за крутою.
Ваўка не баюся,
Кіем баранюся,
Качарэжкай адаб'юся,
Пайду й буду спаць.

(Адыходзіць убок і, лёгшы, быццам сьпіць).

Воўк (кідаецца, хапае адну з авечак і ўцякае разам з ёй за дзьверы).

Пастух (усхапіўшыся, крычыць): Ага-ту! Воўк авечку панёс...

(Але воўк ужо з авечкай за дзьвярыма).

(Пастух зноў выходзіць на сярэдзіну хаты і пяе тыя самыя словы):

Пасу, пасу авечачкі
Недалёчка ад рэчачкі... *і г. д.* (і зноў ідзе спаць).

(Воўк зноў хапае авечку і так, аж пакуль не забярэ апошняе).

Пастух (ідзе шукаць авечкі і, стукаючы качаргой то на адзін бок, то на другі,—кажа): Воўчы сьлед, авечы сьлед, воўчы сьлед, авечы сьлед... (Падыходзіць да ваўка і пытаецца): Ці ня бачыў, панок, маіх авечак?

Воўк: Не, ня бачыў.

(Авечкі пачынаюць паціху шумацець).

Пастух: А што-ж гэта ў цябе шумаціць?

Воўк: Пчолы гудуць.

Пастух (варочаецца назад ды ідзе зноў шукаць авечак, авечкі стукаюць): А што ў цябе стукае?..

Воўк: Мае парабкі дровы сякуць...

(І гэтак далей: авечкі ўдаюць галасы коняй, курэй, гусей, аж нарэшце пачынаюць блекатаць).

Пастух (убягае ў тую каморку і крычыць): Ашкіра дамоў. (Уганяе іх у хату, дзе на самым пачатку гулялі, пасьля гэтага кліча ваўка ў лазьню).

Воўк (пытаецца): А якія дровы?

Пастух: Бярозавыя.

Воўк: Не хачу, надта чадзяць.

Пастух (кліча другі раз, воўк зноў пытаецца): Якія дровы?

Пастух: Асінавыя.

Воўк (адмаўляецца, што надта дымяць).

(Ажно за трэцім ужо разам, калі пастух кажа: дровы хваёвыя, воўк згаджаецца, але, падышоўшы крыху, пытаецца яшчэ: А сабак няма?)

Пастух: Адна ёсьць сучка ліхая і тая пад печкай здыхае, а сабака кісялём удавіўся.

Воўк (ужо выходзіць на сярэдзіну хаты і, прысеўшы на карачкі, быццам мыецца).

Пастух (як крыкне): Цюцькі, кусеце... (Авечкі кідаюцца на яго).

Воўк (уцякае, яны даганяюць).

Пастух (падыходзіць да ваўка і пытаецца): А што, воўча, надта яны цябе пакусалі?

Воўк: Ой, пакусалі.

Пастух: Хадзі-ж цяпер будзем іх кусаць (кідаюцца ўдвох на авечак, тыя не даюцца).

## 2. ЛАДКІ-ЛАДУШКІ.

Ладкі-ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,
Нечага ім даці.

Насыплю гарошку,
Каб пад'елі трошку,
Ды падсыплю грэчкі,
Каб несьлі яечкі.
Грэчкі не ядуць,
Яек не нясуць.

## 3. ГУЛІ.

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.

Сталі шчабятаці,
А што каму даці?
Йванку сапожкі,
Рыгорку ражночкі *).
. . . . . . .

1-шы варыянт тэксту.

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.

Сталі шчабятаці,
Нечага ім даці.
Дала-б я ім бобу,
Ня маю ні дробу.

Дала-б я ім аўса,
Ды ня маю каўша.
Дала-б ім гароху,
Ня маю ні троху.

Дала-б я ім грэчкі,
Што-б несьлі яечкі.
. . . . . . .
. . . . . . .

*) Рыгорка—чужое суседняе дзіцянё.

2-гі варыянт тэксту.

Люлі, люлі, люлі,
Пашоў кот на дулі,
Памарозіў лапкі,
Узьлез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе кату дзецца,
Пашоў кот на вулку
А дзіцятка ў люльку.

## 4. А-А ЛЮЛІ.

А-а люлі, люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі яны ў люлі,
Сталі яны гуркатаці,
Дзяціну калыхаці.
Гойда, гойда, люлюсенькі,
Мой сыночак малюсенькі,
Гойда, гойда, гойда,
Дзіця маё кахана.

## 5. БАЮ, БАЮ, БАЕНЬКІ.

Баю, баю, баенькі,
Люлі, люлі, люленькі,
Прыляцелі гуленькі,
Селі яны ў люленькі,
Сталі яны гуркатаць,
Дзіцятачка калыхаць.
Маўчы, маўчы, ня крычы.
Пашоў каток на таржок,
Купіў сабе піражок,
Яшчэ табакі ражок
І сеў сабе на калодзе.
А у добранькай выгодзе
І табачкі панюхаў,
Добрых людзей паслухаў.

На каточка варката,
На дзіцятка дрымата.
Прыдзі, каток, начаваць
Дзіцятачка калыхаць.
На каточка варката,
На дзіцятка дрымата.
Засьні, засьні, ціха сьпі.

## 6. ВЕРАБЕЙКА.

Ходзіць верабейка
Па сьметнічку.
Мала нас, мала нас
На печыва хлеба.
Да і сабірае
Да дружыначку:
Яшчэ к нам, яшчэ к нам
Болей дзевак трэба.
Ой, ляцела птушка
Да і да пшаніцы.
Мала нас, мала нас,
Просімо вас.
Вялікі наш танчык,
Усіх мы ня зьмесьцім.
Многа нас, многа нас,
Прэч ад нас.

## 7. ХОДЗІЦЬ ВЕРАБЕЙКА.

Ходзіць верабейка па сьметнічку [1]).
Мало ў нас, мало ў нас напечано хлеба.

Ай да собіраець ён дружыначку.
Яшчэ к нам, яшчэ к нам болей дзяўчат трэба.

Ой ляцела пташачка яна да пшаніцы.
Мала нас, мала нас, мы просімо вас.

Вялікі наш танчык [2]) усіх не памесьцім.
Многа нас, многа нас, прэч ад нас.

## 8. Я ТАБУН СЬЦЕРАГУ.

Хлопчык-пастух пасе цялят, грае на вярбовай дудачцы і пяе:

Я табун сьцерагу,
А ўсе людзі сьпяць.
Я адзін на расе
Абмакрэў, акалеў,
Адубеў, перамёрз,
Ой!

Ой вы, конікі мае,
Коні быстрыя,
Вы хадзеце па траве
Ня іржыце, ня брыкайце
І да дому не ўцякайце,
Ой!

Ой, кароўкі старыя,
І цяляткі малыя!
Вы пасецеся ўсе,
Вы ня мычце, не бадайце,
Да і ў шкоду не ўпадайце,
Ой!

## 9. ЧАРНУШАЧКА.

*Для жаночага або дзіцячага хору.*

Да сею-жа я, да сею-жа я
А ў гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку—
Да сею-жа я, да сею-жа я.

Да палю-жа я, да палю-жа я
А ў гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку—
Да палю-жа я, да палю-жа я... *і г. д.*

Да бяру-жа я, да бяру-жа я... *і г. д.*

Навару-жа я, навару-жа я,
А старому качана з бураком,

[1]) Сьмецьце—мякіна на гумне.
[2]) Танчык, зразумела, танок, а ня танец.

Маладому кісялю з малаком—
Навару-жа я, навару-жа я.

Пасьцялю-жа я, пасьцялю-жа я
Да старому на узапечкі,
Маладому на покуце—
Пасьцялю-жа я, пасьцялю-жа я.

Падлажу-жа я, падлажу-жа я,
Што старому да дзяружачку,
Маладому да падушачку—
Падлажу-жа я, падлажу-жа я.

Прабуджу-жа я, прабуджу-жа я—
Што старога да стаўкаючы,
Маладога абнімаючы—
Прабуджу-жа я, прабуджу-жа я.

Праважу-жа я, праважу-жа я,
Як старога і з сабакамі,
Маладога і з музыкамі—
Праважу-жа я, праважу-жа я.

## 10. СТАРЭНЬКІ ДЗЕДКА.

*Для жаночага хору або трыо.*

Старэнькі дзедка па гародзе ходзіць,
Па гародзе ходзіць, канапельку сее!
Люлі, люлюшачкі, люлі, люлі, люлі!

Маладая малодка ў варатах стаяла,
Ў варатах стаяла, галубоў зманяла:
— Ой, гуленькі, гулі, ой, гуленькі, гулі!

Шугі, шугі, голубы, на каноплі к дзеду,
На дзедавы канаплі, канапель кляваці!
Люлі, люлюшачкі, люлі, люлі, люлі!

К дзеду на каноплі, канапель кляваці,
Што старому дзеду журбу задаваці!
Люлі, люлюшачкі, люлі, люлі, люлі.

Старому дзеду журбу задаваці,
Каб-бо мне, маладой, канапель ня браці!
Люлі, люлюшачкі, люлі, люлі, люлі!

Ой, каб маладзенькай канапель ня браці!
Каб-жа белых ручак да мне не мараці!
Люлі, люлюшачкі, люлі, люлі, люлі!

## 11. ГЭЙ, ДА ЛЮЛІ.

Гэй да люлі, люлі,
Ды каты два.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Ды шэрыя абодва.

Адзін каток валаката
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.

Пабег каток у лясочак
Знайшоў сабе паясочак.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Знайшоў сабе паясочак.

Трэба ката пераняці
Паясочак адабраці.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Паясочак адабраці.

Паясочак адабраці
Марынку падпіразаці.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Марынку падпіразаці.

Пабег каток пад ігрушку
Ды знайшоў сабе падушку.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Ды знайшоў сабе падушку.

Трэба коціка дагнаць
Падушачку адабраць.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Падушачку адабраці.

Падушачку адабраці
Ды Марынцы прыслаці.
Гэй, да люлі, люлюшанькі
Ды Марынцы прыслаці.

## 12. ПАГНАЛА Я КАРОЎКУ НА РАСУ.

Пагнала я кароўку на расу,
Спаткала я мядзьведзя у лясу.
Мядзьведзечка, ці ня бацька ты мой,
А дзяры-ж ты кароўку маю,
Да ты вызваль галоўку маю:
Я кароўку ня умею даіць,
Я цадзілку ня умею памыць.

## 13. ВЯСЕЛЬНАЯ.

Сьвяці, сьвяці, месячыку, да сьвету,
Пакуль я да цешчы даеду.
Сьвяці, сьвяці, месячыку, як сьвяціў,
Калі мяне маці радзіла.
Па новых сянцох вадзіла, хадзіла, як пава,
Вадзіла мяне, як пана.

## 14. ДЫ УЖО СОНЕЙКА.

Ды ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне да маткі ў госьці хочацца.
Дзе мяне маці спатыкаць будзе?

Чым мяне маці частаваць будзе?
Частуе мяне мёдам ды віном,
Як было табе за чужым сталом.

Ой, ела маці рэдзьку з палыном,
Так было-ж і мне за чужым сталом.
Я ў канцы стала настаялася,
Лічаных кавалкаў нахваталася.
Цераз хату іду думку думаю,
Цераз сені іду сьлёзанькі лію.

## 15. НАША БАБКА ПАДПІЛА.

Наша бабка падпіла,
Пад прыпечкам спаць лягла.
Ты, дзядулька, ня гуляй:
Ідзі бабку падымай.

## 16. АВЕЧАЧКА-ПУХНАТАЧКА.

*Для жаночага ці дзіцячага хору.*

Авечачка-пухнатачка,
А хто-ж цябе будзець пасьціць? (*2 разы*).
Матка стара, дочка мала,
А я была маладзенька кросны ткала. (*2 разы*).

Ткала, ткала, прытыкала,
То ў ніт, то ў ніт, то і ў бердачка.
Прыбывай, прыбывай, маё сэрдачка.
Кросны ткуцца, ніткі рвуцца,
А за мною, маладою, жаніхі б'юцца. (*2 разы*).

Ня тчэцеся, ня рвецеся,
Да за мяне, маладую, вы ня бецеся. (*2 разы*).
Бацька стары, матка стара,
А я, млада-маладзенька, гуляці радзенька. (*2 разы*).

## 17. ПЕРАПЁЛКА.

*Для дзіцячага або жаночага хору.*

А у перапёлкі ды старэнькі муж.
А у перапёлкі дзеткі маленькія.
А у перапёлкі ды хлеба няма.
А у перапёлкі галоўка баліць.
А у перапёлкі ды ручкі баляць.

А у перапёлкі ды грудка баліць.
А у перапёлкі падэшвы баляць,
А што перапёлка ды рана ўстае.

(Пасьля кожнага радка пяецца: „Ты-ж мая, ты-ж мая, перапёлачка, ты-ж мая, ты-ж мая невялічкая").

Песьню пачынае пець перапёлка, якая стаіць у сярэдзіне кола, ці якая-небудзь іншая дзяўчынка. Хор пяе прыпеў. Пры сьпевах перапёлка паказвае мігамі, што ў яе баліць, іншы раз у кола разам з дзяўчынай уваходзіць хлапец, які абазначае мужа.

## 18. ЗАВІЛАСЯ ПЧОЛКА НАД ВАРАТМІ.

*Для жаночага і дзіцячага хору.*

Завілася пчолка над варатмі.
Красна сонца заіграла над людзьмі.
Што-ж ты, вясна наша красна, прынясла?
Прынясла я цёпла лета дзеля вас;
Малым дзеткам па яечку;
Старым бабкам па кіёчку;
Красным дзеўкам па вяночку;
Маладушкам па сярпочку.
Стары бабы—чапцы шыці;
Красны дзеўкі—вянкі віці;
Маладушкі—жыта жаці.
Красны дзеўкі—на вулачку;
Маладушкі—за люлечку.
Красны дзеўкі—гулі, да гулі;
Маладушкі—люлі, да люлі.

(Пасьля кожнага радка пяецца: Ой люлі, ой люлі).

## 19. РАДЗІ, СОНЦА, ЖЫТА.

Радзі, сонца, жыта,
Жыта і пшаніцу,
Жыта і пшаніцу
І ўсякую ярыцу,
І усякую ярыцу,
У полі капамі.

У полі капамі,
А ў гумне стагамі,
А ў гумне лагамі,
Ў клеці карабамі,
А ў печы пірагамі.

## 20. ГЭЙ, ВЯСНА.

Гэй, вясна, гэй, красна, да што-ж ты нам вынесла?
Вынесла, вывезла зялёну мураўку на вясну.
Буйнае жыта да на лета, ядрану грэчку на восень.
Гэй, вясна, гэй, красна, да што-ж ты нам вынесла?
Вынесла, вывезла вам, дзевачкі, вяночкі.
Вам, хлопчыкі, астралочкі, а вам, маладзічкі, чалночкі.
Вам, стары бабы, падтычыны, вам, стары дзеды, пасахі.
А дзе дзеўкі гулялі, там вяночкі паклалі.
Дзе хлопчыкі стралялі, ой там стрэльбы паклалі.
Дзе малодкі кросны ткалі, там чалночкі паклалі.
Дзе стары дзяды стаялі, пасахамі зямлю скапалі.
Дзе старыя сядзелі, кулакамі зямлю пабілі.

## 21. ДА БЫЛО У БАБКІ.

Да было у бабкі,
Да было у любкі
Да дванаццаць валоў. *(2 разы).*

## 22. НУ, НУ, НУ, КАЗЁЛ.

Ну, ну, ну, казёл, паварачайся,
Дай на ножачкі, дай на рожачкі,
На капыцікі на залатыя.

Ты-ж, гаспадыня, ня будзь такая,
Як тая была барабаціха.

А будзь ласкава, запаль шчэпачку,
Запаль шчэпачку, пайдзі ў клетачку
Да набяры мачку на талерачку.

Нашаму казлу нямнога трэба:
Сем печ перапеч, рэшата аўса,
Рэшата аўса, паверх каўбаса.

## 23. АСОВАЕ КАРЫТА.

Асовае карыта поўна вады наліта,
Наліта, наліта, наліта, наліта.
Дзеўкі ногі памылі, хлопцы ваду выпілі,
Выпілі, выпілі, выпілі, выпілі.

Хлопцы ваду выпілі, дзеўкі з хлапцоў накпілі,
Накпілі, накпілі, накпілі, накпілі.

Хлопцы ногі памылі, дзеўкі ваду выпілі,
Выпілі, выпілі, выпілі, выпілі.

## 24. ЯШЧУР.

Да сядзіць яшчур на капе,
Дзяр(ы)жыць венчык на сабе.
А хто-ж тому яшчуру спадабаўся?
Спадабала яму Марынка,
Што ў чырвоным паясочку,
А у руцяным вяночку.

## 25. ОЙ ЛЯЦЕЛІ ДЫ ДВА ГАЛУБОЧКІ.

Ой ляцелі ды два галубочкі.
Да віно маё зялёнае.
Ой зялёны явар вінаград.

Нясьлі яны ды два жалудочкі.
Ой нясучы уранілі.
З тых жалудочкаў вырасьлі дубочкі. } *(прыпеў)*

На тых дубочках макава расіца. Да віно маё... *і г. д.*
Хто-ж тую расу абтрасаць будзе? Ой зялены... *і г. д.*
Вышла, вышла красна паненка. Да віно... *і г. д.*
Яна тую расу абтрасала. Ой зялёны... *і г. д.*
Белы твар умывала.
Малада паненка, ня трымай гасьцей.
Ня трымай гасьцей, надары барджэй.
Не вялікім дарам—залатым талярам.
Пачынальнічку дзесятачак.
А сьпеваку рубель у руку.
Механошы карабец яец.
А музыцы чаркай дасі.
Кварта гарэлкі ды сыр на талерку.
Каўбасою абкружыў,
Белым сырам забяліў.

## 26. ЧАЧОТАЧКА.

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла невялічкіх семера малых:
Аўгіньню і Аксіньню,
І Тацюху, і Насьцюху,
І Макрыну, і Грыпіну,
Сёмую Хімку.

Спарадзіўшы і ўзрасьціўшы,
Замуж аддала:
Аўгіньню за Мірона,
А Аксіньню за Сапрона,
А Тацюху за Дзяміда,
А Насьцюху за Сьвірыда,
Радзівону Макрыну,
А Хрытону Грыпіну,
Хімку за Кузьму.

Як зачала чачотачка пасагі даваць,
Як зачала невялічка усім дараваць:
Аўгіні кажушок,
А Аксіні хвартушок,
А Тацюсе пялёнкі,
А Насьцюсе валёнкі,
А Макрыне дзьве кошкі,
А Грыпіне панчошкі,
Хімцы падвязкі.

Зазывала чачотачка дзесяцёх мудрых,
Зазывала чачотачка ўсіх братоў родных:
Адзін быў Савацей,
Другі быў Цілямпей,
Трэці быў Атрахім,
А чацьверты Гарасім,
Быў Барыс і Дзяніс,
І арганец Кузанец,
А слуга Карпец. (*2 разы*)

Нанімала чачотачка многа музыкі,
Нанімала чачотачка ўсю капэлію:
Верабей на скрыпачцы,
Салавей на скрыпачцы,
А сарокі у прыскокі,
А вароны у далоні,
Чорны галкі на цымбалкі.
Дробны пташкі насунулі:
Люба слухаць, як загралі
Аж розных музык. (*2 разы*)

А чачотка ня гуляла, чорну блыху гатавала. (2 разы)
Тры дні госьці банкет мелі,
Пакуль чорну блыху зьелі,
А на трэцюю нядзелю
Госьці дамоў захацелі,
За вясельле ўсе дзякуюць,
Пара дадому.

## 27. А МОЙ ДЗЯДЗЬКА ДУДНІК БЫЎ.

А мой дзядзька дуднік,
А дзядзіна дуднічка.
Павесілі дуду на зялёным дубу.
Чаго дуда ня грае,
Чом яна не сьпявае?

Ой, дуда, дуда вярбова,
Лычкам перавязана.
Чом яна ня грае,
Чаму не сьпявае?
Бо голасу ня мае,
Таму яна не сьпявае.

## 28. КАМАР ЛАЗЬНЮ ТАПІЎ.

Камар лазьню тапіў,
Блыха парылася,
Распрапарылася,
З палку ўдарылася.
Ай, бяжэце па папа,
Па запечнага клапа.
Няхай поп прыбяжыць,
Запісачку прачытае,
Ўпакойнічка адпявае.
Жучкі ямачку капаюць,
Яны блошку зарываюць.
Ай, ду-ду, ду-ду, ду-ду!
Сядзеў жораў на дубу;
Прыляцела сінічка,
Вераб'ёва сястрычка.
„Каго будзем жаніці?“
Васіля паповіча.
А Васіль, Васілёк,
Пабяжы-ка у лясок,
Адсячы даўбню,
Удар бабу па (і)лбу, —
Няхай баба коціцца,
У балоце топіцца.
А ў балоце гусі,
Ляці да Марусі,
А ў Марусі галкі,
Смаляныя лаўкі:
Як сеў—прыкіпеў,
Дык абедаць не хацеў.
Адчыняйце варата,
Едзе пан сірата
Без сарочкі, без штаноў,
Поўна торба сухароў...

## 29. АЙ, ВЕЧАР, ВЕЧАР.

Ай, вечар, вечар,
Каравай ня печан;
Печ не гатова,
Нясеце дровы.

Нашага жанішка
Родны бацюхна
Як завінецца —
Каравай сьпячэцца.

## 30. ОЙ, ЗАГУДУ, ЗАГУДУ.

Ой, загуду, загуду,
Ды ў Ячонцы ня буду,
Бо ў Ячонцы ворагі
Кругом мяне абляглі.
Ой, пайду я, гукаючы,
Свайго роду шукаючы.

Ой, не знайшла радзімы,
Толькі ў полі яліны.
Ў чыстым полі яліны
Свае маткі магілы.
Устань, устань, матка мая,
Прыйшла к табе госьця твая.

Ой, ня ўстану, не магу,
Галовачку ня ўзьніму,
Я й пясочак адграбу,
Галовачку падніму.
Хоць пясочак адграбеш,
Галовачкі ня ўзьнімеш.

## 31. ДА РАЗГАРЫСЬ ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА.

Разгарысь да вячэрняя зара,
Перад месяцам стоячы.
Прыбярысь наша гаспадыня
Да ў кунюю шубку.

Наша гаспадыня па двару хадзіла,
Залаты ключы насіла,
Клуню яна адпірала,
Водку даставала,

Усё жней частавала.
Жнеце, мае жнейкі,
Жнеце, пажынайце,
На край паглядайце.

Сонца ўсё высока,
Да краю ўсё далёка.
Угледзела вока,
Што сонца нявысока.

Ну край недалёка,
Слава табе, божа,
Што два полі зжалі,
Трэцяе зааралі.

## 32. ДА ЛЯЦЕЛІ ГУСАЧКІ ЦЕРАЗ САД.

Да ляцелі гусачкі цераз сад.
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад.

Час табе, дзевачка, на пасад.
А што вам, гусачкі, да таго?

Ёсьць у мяне ойчынька да таго.
Як скажа сесьці, я і сяду.

Запрагу коніка і паеду.
Адчыняць цэркаўку, я ўвайду.

Засьцелюць каберац, я й стану,
Зьвяжуць ручанькі, я й зьвяну.

## 33. ПРЫЛЯЦЕЛА ГАЛКА.

*Дзіцячы або жаночы хор.*

Прыляцела галка, чужая зямлячка,
Села яна, пала да на сухой сосьне,
Села яна, пала да на сухой сосьне,
Ой, на сухой сосьне,—сьпявае жалосна.

Ня хіліся, сосна, бо мне вельмі тошна,
Што я ў чужым краю дарма прападаю;
Што я ў чужым краю дарма прападаю—
Без айца, бяз маткі, бяз роднага браткі.

Прыедзь, прыедзь, братка, прыедзь, галубочак,
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак;
Прыедзь, галубочак, хоць раз у гадочак
На адзін дзянёчак, хоць адзін часочак.

## 34. ЗАІНЬКА.

Заінька да шарусенькі,
Заінька да бялюсенькі,
Праскачы, зайка, ў дзірачку,
Да выламі сабе былачку *),

*) Скарочанае—быліначку.

Праскачы, зайка, куды хош,
Выбірай былінку, каторую хош.
Заінька, павярніся,
Шэранькі, абраціся.
У нас гарадочкі гарадзецкія,
Ўсе ў нас зачэпачкі нямецкія.
А пайдзі, наш зайка, ў скокі, ў бокі,
Запляшы, наш зайка, да ў далоні.

Удзельнікі робяць круг, трымаючыся за рукі. У сярэдзіне кругу адзін „водзіць", г. зн. абазначае „зайку". Увесь час ён стараецца выскачыць з кругу. Пры заканчэньні песьні ўсе, хто стаіць у кругу, павінны запляскаць у далоні. Гэтым момантам карыстаецца „зайка": ён хапае каго-небудзь з кругу і хутка становіцца на яго месца, а той, што застаўся бяз месца, павінен „вадзіць", г. зн. абазначаць „зайку".

## 35. ЯК У ПОЛІ.

Як у полі, як у полі
Буен вецер вее.
Там удава пшанічаньку сее.

Ой сеяла, ой сеяла
Ды не валачыла,
Ўсё поле сьлёзкамі змачыла.

Ой сеяла, ой сеяла
Да познай ночы,
Выплакала свае кары вочы.

Яшчэ ўдава, яшчэ ўдава
Ды да дому не дайшла,
Ўдавіна пшанічанька ўзышла.

Яшчэ ўдава, яшчэ ўдава
Вячэраці села,
Удовіна пшаніца пасьпела.

Пашла ўдава, пашла ўдава
Пшаніцу глядзеці,
Аж вывела зязюлечка дзеці.

Пашла ўдава, пашла ўдава
Пшанічаньку жаці,
Аж у зязюлечкі няма маці.

Ой большыя, ой большыя
Ў вырай паляцелі,
А меншыя папасірацелі.

## 36. ЯК ПАШОУ МІКОЛА.

Як пашоў Мікола у чыстае поле, у чыстае поле,
У чыстае поле (2) жыта паглядаці.
Радзі, божа, жыта (2) густа каласіста.
Густа каласіста (2), ядром ядраніста.
А ехалі госьці з чужое валосьці ў бору начавалі.
Ў бору начавалі [пад сасною агонь клалі. (2).
Каб гэта сасёнка [да на нашу старонку. (2).
А з гэтае сосны [было-б тры ўгоды. (2).
У корані сосны [ды густое жыта. (2).
Ў сярэдзіне сосны [ды ярыя пчолы. (2).
А ў вярхушцы сосны [ды звонкія гусьлі. (2).
А мы-б з таго жыта [піва наварылі. (2).
Ў сярэдзіне сосны [ярых пчол лавілі. (2).
Мяды выбіралі [ды васкі тапілі. (2).
Мы-б жыта выжалі, [ў гуселькі ігралі. (2).

# ЗЬМЕСТ.

Стар.

# ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ

| Старонка | Радок | Такт | НАДРУКАВАНА: | ПАВІННА БЫЦЬ: |
|---|---|---|---|---|
| 3 | 2і3 | 2і3 | | |
| 5 | 6 | 2 | | |
| 6 | 8 | 2 | | |
| 8 | 2 | 4 | | |
| 10 | 1 | 6 | | |
| „ | 12 | 2 | | |
| 12 | 2 | 4 | | |
| 13 | 3 | 4 | | |
| 14 | 3 | 2 | | |
| „ | 12 | 1 | | |
| 17 | 12 | 1і2 | | |
| 20 | 6 | 1 | | |
| 21 | 6 | 2 | | |



| Старонка | Радок | Такт | НАДРУКАВАНА: | ПАВІННА БЫЦЬ: |
|---|---|---|---|---|
| 23 | 7 | 2 | | |
| „ | 9 | „ | | |
| „ | 10 | 1 | | |
| 24 | 8 | 6 | | |
| 30 | — | — | | |
| 31 | 1 | 6 | | |
| 34 | 11 | 4і5 | | |
| 35 | 8 | 2 | | |
| 36 | 11 | 8 | | |
| 37 | 10 | 4 | | |
| „ | 11 | 6 | | |
| 41 | 10 | 5 | | |
| 42 | 3 | 8 | | |
| 44 | 9 | 2 | | |
| 62 | — | — | **Як у полі.**—Гарм. Я. Прохарава. | **Як у полі.**—Гарм. А. Аленіна. |

